**УДК** 882.6-1
**ББК** 84 (4 Беи)
**С 72**
Спіцын А.

Цені верасоў: Вершы / А. Спіцын. -Мн.: "Беларускі кнігазбор", 2001. - 64 с.

ISBN 985-6638-21-6.

Малады паэт Алесь Спіцын — студэнт біялагічнага факультэта, аднак яго ўзважанаму, абдуманаму стаўленню да паэтычнага слова маглі б пазайздросціць і гуманітарыі.

Яго творы аб'ядноўваюць у сабе мінулае і сучаснасць. Узнаўляючы вобразы і рытмы старажытнай ваярскай паэзіі, аўтар імкнецца выказаць свой погляд на адвечныя паняцці чалавечага жыцця (гонар, каханне, пошук сэнсу існавання, пошук Бога).

Адрасуецца шырокаму колу чытачоў.

**УДК 882.6-1**
**ББК 84 (4 Беи)**

**ISBN 985-6638-21-6**

## ЗІМОВЫЯ ВЕРШЫ

* * *

Я вокам абшар і нябёсы абмераю
І зорысты пыл снягоў, —
Бог даў беларусам больш, чым імперыю,
Бог даў беларусам любоў.

Хай неба начное пакрыецца млечнасцю
І прыйдзе світанак як госць.
Бог даў беларусам болей, чым велічнасць,
Ён даў ім сваю прыгажосць.

Хай зло над сусветам часова ўладарыць
І сее бязлітасны гвалт.
Бог даў беларусам больш, чым ўсеўладнасць,
Гасподзь міласэрнасць ім даў.

* * *

Маўчыць зімовая прастора,
Імкнецца з ветрам снегапад,
І снежань смуткам і дакорам
Сусвету засыпае сад.

Куды ж імкнецеся, сняжыны?
Куды вы клічаце душу?
Згаліла восень скрозь галіны
І прагу летнюю маю.

Куды імкнешся, лёс? Дарэмна...
Куды завеш мяне ізноў?
Цяпер я стаў нібыта дрэва
На межах выпадкаў і сноў.

* * *

Яліну зваліў дзікі вецер,
Нібыта мне трон рыхтаваў,
Зваліў ён і сцішыўся недзе
Спачыці ад ветраных спраў.

І я адпачну на яліне,
Адоленай ветрам начным,
Цяплей і зручней між галінаў —
Не чуецца холад зямлі.

Лясное маўчанне аблашчыць
Нядаўняе буры сляды, —
Хай ў грэшнай свядомасці танчаць
Абрысы святой цішыні.

Вятрам спачываці не лішне,
Каб потым ляцеці ізноў
І я, як вятрыска, спачыўшы,
Сарвуся з жытла маіх сноў.

* * *

Бывае саладчэй забыць,
Чым помніць слодыч,
Калі бяссільны больш здабыць
Таго, што хочаш.

Але ж у змесце забыцця
Няма нічога.
І застаецца пустата,
І ў гэтым слодыч.

Ды ці дазволіць тэта нам
Гарэза-гонар —
Назваці забыццём свой стан,
Хоць гэта й слодыч?

Але калі бяссільны жыць,
Запомні словы:
Бывае саладчэй забыць,
Чым помніць слодыч.

* * *

Збіраючы аскепкі чужых думак,
Я шляхам непарыўнай логікі
Прыходжу да суцэльнага
Абсурду,
Што гэткі ж непарушны
І цвёрды.
Каб звёны сабраць у ланцуг,
Трэба, каб кожнае мела разрыў
Для злучэння з іншым.
Няхай будзе так!

* * *

Мне на грані між снамі і явай
Зноў прымроіўся змрочны пакой,
Ен быў колеру чорнае кавы
З блікам свечкі на каве густой.

Кім, навошта, адкуль мне даслана
Тая мроя — не ведаю сам,
Там паветра густое, як кава, —
Змрокам чорным ад краю да дна.

Толькі свечка той змрок парушае,
Блікам светлым на каве дрыжыць,
Хтосьці ранку ля свечкі чакае,
Хтосьці змрочнаю ноччу не спіць.

* * *

Я біўся,
Як спуджанае сэрца
У электрычна-бетонных нетрах,
Я прагнуў
Хоць крышку жывога святла,
Але вокны
Чарнелі ноччу,
Укрыжаванай ніёнам.
Мае вочы смяглі
Ненатоленай марай,
Мае вочы смяглі
Ад гэтага бляску
І праглі хоць кроплю
Жывога святла
Ва ўкрыжаванай ночы.
І я прасіў
Адзін светлы блік.
О, толькі адзін светлы блік
На гэтым змрочным акне
З укрыжаванай ноччу.
І ён нарадзіўся,
Маленькі
І трапяткі,
На змрочным акне
З укрыжаванай ноччу.
І я зірнуў на срэбны блік
На акне,
І я спужаўся,
Што гэта водблеск электрычнай
Лямпачкі.
І я падумаў,
Што ён такі ж, як усе,
І я засумняваўся ў цудзе,
Але —
Дзякуй Ісусу —
Гэта была
Зорка.

* * *

Я ў цёплым пакоі ад лютай зімы
Схаваны надзейна бярвеннем і шклом,
Не, ёй не прарвацца ніколі сюды,
Хай б'ецца ўжо там — за акном, за акном.

Хай б'ецца, хай стогне, ірвецца ў слюду
Карункавых строяў на белым акне,
Хай рогам спявае завею-нуду,
Хай плачам хаціну маю ахіне.

Не дадзена ёй уварвацца сюды —
У светласць хаціны, у гэты пакой,
Гасподзь даравў нам збавенне ў агні
І печка трашчыць — апявае спакой.

У гэтым пакоі — у сферы святла —
Сяджу, як пухнаты мядзведзь, што заснуў.
Пад снегам бялюткім схавана зямля,
Я ж цёплаю коўдрай акно захінуў.

О, колькі хацінак такіх на зямлі,
І печак гарачых, і стомленых душ,
Якія ў палоне, ў палоне зімы, —
Не выйсці скрозь царства марозаў ды сцюж.

Я ціха сяджу і гляджу праз акно
На змрочныя далі, на белы сумёт,
Дзе сумна жыцця памірае сцябло,
Дзе верцiцца хуткі зімы калаўрот.

Дзе люты лютуе, імкнецца, сняжыць
І шэрым плашчом развявае вятры,
О, колькі яму застаецца дажыць
Да гучнай пагібелі снежнай — вясны.

Спакойна чакаю збавення зямлі,
Схаваны надзейна каменнем ды шклом,
Гасподзь дараваў нам збавенне ў агні,
Каб душы за зіму не сталі ільдом.

* * *

I

Маё імя забыта прагай народа
Да часу.
Якая розніца, як мяне звалі?
Спазнайце Таго,
Чыё імя вы не пачулі...

II

О, таямніцы продкаў...
Як скрозь шчыліны ў плоце
Між дошак
Мы бачым мінулае.

III

Свечка — сімвал міру,
Але перакуленая свечка
Падпальвае хату...

## Апошні снег

*Брату прысвячаю*

Калі выпадае апошні снег,
Кранае замёрзлую вечнасць,
Сусветны сшываючы мех,
І вечная бесчалавечнасць
Тых, хто святую не любіць вечнасць,
Калі выпадае апошні снег...

Калі выпадае апошні снег,
Забыты, замёрзлы і ўсімі пракляты,
Якому не дарэць ні слёзы ні смех,
Ён сыпле мільёны сняжынак калматых,
Старэе зіма, а яны немаўляты,
Калі выпадае апошні снег...

Калі выпадае апошні снег,
Яго не клянеш, не завеш, не чакаеш,
Бо часу самотны нястрыманы бег...
Ёсь снег, ён з нябёсаў — яго не прымаеш.
І тольні ніколі, ніколі не знаеш,
Калі выпадае апошні снег...

# ВЕСНАВЫЯ ВЕРШЫ

## Лясная песня

О, ўзмоклая вясною даль,
О, лес, што ловіць лёгкі вецер,
Дзе ў глыбіні шумлівых дрэў
Заўважна ісціна і памяць.

О, воля, што не мае меж,
О, подых ветранай свабоды,
О, сонца, што знішчае снег,
І пушча, дзе няма дарогі.

У снах і мроях бласлаўёны,
Напоўнены малітваў, чар,
Туманам апавіты ў скронях
Свяшчэнны лес, ты вулей мар!

* * *

Слодыч палёту ў дыханні цяпла
Птушкам вядома.
Тое, што дадзена ім нараджэннем,
Нам не даецца,
Толькі душа нараджае ў нас прагу
Слодычы гэтай.
Радасць даецца нам — радасць палёту:
Слодыч кахання...

* * *
Мне кажуць: ты — грэх,
Прыгожая і свежая вопратка
Бруднага пералюбу,
Блуд —
Твая сутнасць.

Мне кажуць:
Ты крывадушніцтва,
Ты —
Прыхаваная грэшнай душою
Нізкая, дробная
Страсць.

Мне кажуць:
Ты —
Д'ябальскае спакушэнне,
Што вядзе да
Пагібелі.
Але яны памыляюцца:
Ты
Падарунак Госпада,
Што існуе
Толькі разам з верай
І знікае разам
З ёй.
Ты — шчасце
У выкананне запавету,
Пералюб —
Твой найзлейшы вораг
Ты ж прыносіш
Апраўданне і чысціню.

**Шкалярская песня**

Мы збялелі ад прагі пазнання
І ад прагі жыцця ачмурэлі,
Мы ўсе крэсы, ад краю да краю,
Абысці і спазнаць захацелі.

Мы з пагардай нявольнікаў ведаў
Пагарджалі чужою заслугай,
І тугія цяжы нашых нерваў
Напаўняліся палкай атрутай.

Мы паветра глыналі з трымценнем
І ніяк не маглі наглытацца,
Нам патрэбны і слава і вера,
Каб была нам залічана праца.

Хваляваласся прагная годнасць,
Калі годнымі нас не лічылі,
Ад алкання ламалі мы косці,
Што ад болю дрыжэлі і нылі.

Наша слабасць і нашая мужнасць
Неразрыўна злучаліся разам,
Нам здавалася — можам адужаць
І пытанні вянчаці адказам.

Мы жадалі дабра і святыні
І, жадаючы, прагна грашылі,
Ганарыліся мы сваёй сілай,
Забіваючы ўсё, што любілі.

Скажам, братцы: хай будзе, што будзе,
Хай Нябёсы ўладараць над часам,
Бо студэнты — нават не людзі,
Гэта іншая, іншая раса.

* * *

Скрозь шызую дымку
Пахне мокрым каменнем
Горад,
Стары
І ўмудроны часам.
Пыл дзевяці стагоддзяў
Прыбіты дажджамі
Да дна.
*Я* напішу
На сцяне,
Дзе пісаць
Забаронена,
Імя твае.
Горад запомніць яго
Нязгаснаю памяццю пылу —
Горад,
Стары
І ўмудроны часам, —
Наш горад...

* * *

Я люблю, калі ўспыхваюць воды
Нябёсных аблокаў
Захадам,
Як шчокі сарамлівай нявінніцы,
У імгненне злучэння
Дня і ночы
На застылым
І пыльным блакіце.
Я ведаю
Бязгрэшнасць гэтых фарбаў
У імгненне
Нявызначанасці.

**Шлях**

I
Я праціскаюся
Скрозь галіны вятроў
Насустрач пунсоваму сонцу.
Я не знаю, куды іду,
Але я ведаю,
Што вярнуся туды,
Дзе ніколі не быў,
Туды,
Дзе нарадзілася мая душа.

II
Неба палымнее
Ірваным дажджом,
Языкі яго шэрага полымя
Падпальваюць зямлю,
Пакідаючы лужыны
На асфальце
Сонных гарадоў,
Ён стогне і крышыцца.
Я іду скрозь халодны агонь
Насустрач невядомаму,
Насустрач роднаму,
Насустрач таму, што я мушу знайсці.

III
Рэкі імкнуцца
Па твары зямлі,
Рэкі маюць колер нябёсаў,
Рэкі заўжды
Імкнуцца наперад...
Няхай будуць рэкі!

IV
Я ведаю дастаткова,
Каб заблытацца,
Я хаджу даволі далёка,
Каб заблукаць,
Я бачу досыць,

Каб не разумець,
Я знаю — і ў гэтым мой смутак.
Божа!
Не дай мне ведаць —
Дай разумець,
Вазьмі руку маю —
Яна цягнецца да Цябе, —
Давядзі туды,
Дзе я ніколі не быў,
Туды, дзе нарадзілася
Мая душа...

V

Шлях наперад.

* * *

Размаляваныя твары,
Расперазаныя мары,
І да прыгажосці брудныя хмары —
Сталёвых глыбінь начныя пачвары,
Але я знаю — між гэтага бруду ёсць ты,
І я адолею хмары.

У іх вачах начныя кашмары,
У іх ачагах не агні, а пажары,
У іх дамы падобны да гараў,
На іх ляжаць апраметныя чары,
Але я знаю — між гэтага бруду ёсць ты,
І я адолею чары.

Сляпыя, але магутныя масы,
Якія дзеляць на розныя класы,
І звонкія ў мёртвым снезе абцасы,
Яны даўно не ведаюць часу,
Але я знаю, што ў свеце ёсць Бог —
І справа не ў масе.

* * *

Любоўю Неба нам наканавана
Зямля, якая
Ногі нам кранае,
Калі мы крочым басанож,
Яна святая,
Як і любы дарунак Бога,
                                        яна
                                                святая...

## ЛЕТНІЯ ВЕРШЫ

* * *

Падлога і столь, быццам хлеб,
Паветра між імі, як масла,
Даруйце, што нехта заўчасна
Пакой мой паклаў на стале.

І толькі самотна, як рэшткі
Калісьці мінулых падзей,
Застылі выявы людзей
На фатаграфіях светлых,

І толькі святло за спіной,
Што вокны ў сусвет мой прапусцяць,
Імгненнем застыне між лустаў,
Імгненнем сусвету майго.

* * *

Пазаблытаўся дождж у лістоце,
Зашуршэў мішурой аб зямлю,
Зноў у ціхай і светлай маркоце
Кожны ліст скрозь страсае слязу.

Дзень застыне празрыстасцю кроплі,
Што імгненне ў паветры жывуць,
Іх з лістоў асыпаюцца сотні,
Aпадаюць з нябёс на зямлю.

Зашуміце дажджы — адспявайце
Маю грэшную сучку-душу,
Пачакайце, дажджы, пачакайце —
Не тапіце пакуль што, прашу.

* * *

На абпаленых старонках
Ціха спяць
Адзінокія пагосты,
Сенажаць,
А над пенаю аблокаў —
Вышыня,
І пад ёю на дарозе
Толькі я.
Адзінота і маўчанне —
Карагод,
Непаўторнае бязмоўе
Мёртвых нот.
Да канца і да пачатку
Толькі крок,
Невядомасцю засланы
Кожны бок.
І куды ісці, не знаю, —
Думка-сон,
Мне бясконцых небакраяў
Цесны дом.
А над соннаю прасторай
Туманы
Пыл укрылі, быццам снегам,
Да зімы.
Толькі мроі, як заслоны,
Як агні,
Разляцеліся навокал
Па зямлі.
Толькі холадам спавіты
Кожны крок,
Толькі ведаю, што недзе
Тут ёсць Бог.

* * *

Я знаю: ісціна не ў тым,
Што знаю я,
У сонным марыве сівым
Дрыжыць зямля.
Я знаю: ісціна не ўся
Адкрыта мне,
Дрыжыць і рушыцца зямля
У тумане.
Але я знаю, што мой шлях —
Хоць боль пакуль,
Хоць будзе смерць, і будзе страх,
І сотні куль, —
Ідзе туды, дзе скрозь туман,
Скрозь сон зямлі
Святло імкнецца, й мноства ран
Гаяцца ім.
Я веру: некалі дайду
Да той зямлі,
І жыватворную ваду
Раздам усім.
Я знаю: ісціна не ў тым,
Што знаю я,
Але у марыве сівым
Я бачу шлях...

* * *

Я бачыў святло,
І яны бачылі святло,
А хтось не хацеў бачыць святло,
І яны навучыліся рабіць дым,
Каб не бачыць святло.
Я бачыў дым,
І яны бачылі дым,
А хтось не хацеў бачыць дым,
Але дым быў навокал, абдымаючы свет.
Я бачыў свет,
І яны бачылі свет,
І свет быў дым,
І дым быў свет,
І ўсё было дым,
І ўсё ў свеце было дым.
Але я бачыў Таго,
Хто не хацеў дым,
І іншыя бачылі Таго,
Хто не хацеў дым,
Але яны не хацелі Таго,
Хто не хацеў дым,
Бо усё было дым,
Бо дым быў свет,
Бо свет...
Бо свет...

* * *

Я п'ю ваду,
Павялічваючы смагу,
І аб'ядаюся агнём
Апантанага сонца.
У імя чаго гэтая спёка —
Я не ведаю,
Я плыву ў глыбіні
Расплаўленага
Паветра горада,
Не шукаючы выйсця
З гэтай цыстэрны,
Названай імем
І тытулам надзеленай,
Я проста на дне
Расплаўленага паветра,
Я проста на дне,
Я *проста!*

Але для чаго —
Не ведаю...
Людзі,
Як разынкі ў цесце, —
Насустрач, міма, упоперак,
А навошта —
Не ведаю:
Проста ідуць людзі,
Проста ідуць,
*Проста...*

А сонца напаляе цыстэрну горада,
Якая названая імем
І тытулам надзеленая,
А мы не шукаем выйсця:
Мы — проста на дне
Расплаўленага паветра,
Мы — проста на дне,
Мы — *проста.*

Дна хопіць на ўсіх,
А выйсце — далёка

І складана.
Складанае —
Для складаных,
А мы —
*Проста.*

* * *

О не! У неба не бывае дна,
Але як дзень, бы вогнішча, зацьмее,
Вада святла заўважна абмялее,
То буйныя жамчужыны відаць.

Але — у неба не бывае дна.
Блакітны, шэры, залаты і сіні...
Бяздонна-светлай напаўненне скрыні —
Густая каляровая вада.

О не! У неба не бывае дна.
Сінечы шоўк, зараслы светлым рэхам,
І толькі спрэс суцэльная паверхня,
І толькі спрэс святая глыбіня.

* * *
Туманна... І полымем пыльным іграе
Падвойнае сонца нябёс і азёр,
Бы след, дагарае забытая хваля,
На водах забытая дзедзічам гор.

Заход сонца неба — у лес прыхіляе,
За бераг — азёрнае сонца нясе,
Шарэе святло, але як палымяна
Нябёсная лава скрозь шэрасць цячэ.

І вось трысянгі паглынулі дашчэнту
Азёрнае сонца з люстэрнай вады,
А сонца нябёсаў для новага свету
Яшчэ засталося на краі лясным.

* * *

Адзнака ціхасці журбы
На шалях вечароў,
Дзе ноч іноўку, як заўжды,
Цяжэй ад грузу сноў.

Застыла, як на сургучы,
Пячаткай сонца зноў,
Бо ноч цяпер, як і заўжды,
Цяжэй ад грузу сноў.

Канверт нябёсаў хтось забыў
Даставіць — адрас знік.
Пячатку зрэзаў-запаліў
У месяцы начнік.

І зорак срэбныя лады
Рассыпаў гукам слоў,
Бо ноч іноўку, як заўжды,
Цяжэй ад грузу сноў.

Ураўнаважваю гады
На шалях вечароў,
Бо ноч іноўку, як заўжды,
Цяжэй ад грузу сноў.

* * *

Я — попел дня,
Я — ноч твая.
І попел адкрывае сутнасць
Таго, было што да агня.

* * *

Нож, быццам дождж,
Што прапітвае ноч,
Пранікае у нетры цяпла
Да канца,
Як да тла.

След, быццам хлеб,
Крывавіць сусвет,
Як ноч, што прашыта вадой,
І ён зарасце жывой
Травой.

Стогн, быццам рог, —
Сабрат перамог.
Прарываецца ў вецер,
Ільецца, а мо ірвецца —
Апошні глыток
Паветра.

* * *

Я спаў, калі не мусіў спаць
Між ворагаў у цемры ночы,
Калі братоў пакінуў раць,
Закрыў у адзіноце вочы.

Глыбокім быў нячуткі сон,
Пра крыж мяча рука забыла,
І пасся без нагляду конь —
У кратах сну бяссільна сіла.

Затое злы не спіць, калі,
Калі спіць вой недасканалы,
Як гаспадар у забыцці, —
Вось момант для яго чаканы.

Падкраўся незаўважна ён,
Каб крокі сон не парушалі,
Падняў прылбіцу і пластрон,
Кінжал і меч здабычай сталі.

Ён незаўважна зняў з мяне
Мой пояс — гонару адзнаку,
Без шуму — у мяшок сабе
Схаваў паножжы і пальчаткі.

І ноч бязгучнасцю жыла,
Калі ён з іншым маім скарбам
У цемру ціха звёў каня,
І той яго не выдаў іржаннем.

Калі ж світанак засвяціў,
Я зразумеў у поўнай меры,
Што я бяссільны і адзін,
Нагі — з адною толькі верай...

* * *

Намалюй мне ціха вецер,
Нашадчы мне шчыра казку,
Апішы яскрава квецень,
Раскажы мне, калі ласка.
У хаціне супраць поўні
Зашуміць на печцы кіпень.
Раскажы, як зорны конік
Уцякае шпарка ў ліпень.
Ноч... І сценкаю бярозкі
Абступаюць нашу хату.
Раскажы мне, як стракозкі
Таньчаць каля вадаспаду.
За акном міргаюць зоркі
І такклічуць нас у далі.
Раскажы мне пра пагоркі,
І пра мора, пра каралі.
Раскажы мне пра герояў,
Тых, што зло перамагаюць,
Покі сотні ціхіх мрояў
Нас не схопяць, не завабяць.
Як жывуць пачэсна людзі,
Раскажы мне, калі ласка.
Прытулі мяне — І будзем
Захапляцца гэтай казкай.

* * *

Мядзяніць вокны
Промень нараджэння
Дня.
Вада нябёсаў
Пахавалася за край
Аясоў,
Што пышняцца па далі
Пада мной.
О, загарыся, дзень!
Гасподняй ласкай
Ты нам падараваны,
Дзень новы,
Асвятляці шлях.
Сярод Нябёсаў
Нараджайся
Для зямлі,
Дзень новы, —
Нашае святло!
Адкрый жа вочы нам!
Іграй!
У шатах дрэў
Ператварыся ў жыццё,
Жыццё сагрэўшы,
Дзень новы.
Хадзі смялей,
Цябе не праклянём —
Не бойся,
Хоць нашай думкі змрок
Табе не важны:
Ты Богам дадзены,
Табе мы рады.
Цябе прымаем
З яснасцю тваёю,
З удзячнасцю,
Які ні быў бы ты,
Табе мы радыя,
Дзень новы, —
Уставай!

* * *

Світанак каралём панурым
Аб'едзе сонныя лясы,
Дзе на зямлі маёй пурпурна
Квітнеюць летам верасы.

Суквецці ў спёку уздухмяняць
Салодкі і снатворны пах,
Каб мрою абудзіць і памяць,
Затанчаць цені на імхах.

Старую нагадаюць прагу
Пад ціхай засенню бароў
Малітваў сведкі, клятваў, скаргаў —
Нямыя цені верасоў.

І на клінок вайны забытай
Адбітак ляжа іх красы,
І рог пакліча... І на бітву
Дадуць адвагі верасы.

І, можа, пырсне зноў з-пад сталі
Ці наша, ці чужая кроў, —
Яе ад позіркаў схаваюць
Нямыя цені верасоў.

Мячы, сутычкі, перамогі —
Мы тут спачнем ад іх ізноў,
На твары белым і знямоглым
Затанчаць цені верасоў.

І ўжо калі апошні выклік
Пальчаткай кінем смерці мы,
Даст Бог — нас родны жвір засыпле
І нас укрыюць верасы.

## ВОСЕНЬСКІЯ ВЕРШЫ

* * *

Сум вітаецца з журбой,
Адпачынку крышку просіць,
І пажоўклых дрэў мятлой
Ад парога гоніць восень.

Лета рэштай сіл, рыўком,
Навальніцай на пракосы,
Бо апошнім матыльком
На далонь садзіцца восень.

І пяском дажджоў і хмар
Абмялеў блакіт нябёсаў.
Не кажыце — чую сам:
У душу ірвецца восень.

* * *

Патанае ў нябёсах планета —
Мячык сіні з мапай зялёнай,
Адлятае, як воблака лета,
Восень светлай вянчае каронай.

Я аддзячу Богу за восень
І аб леце плакаць не стану,
За мяне ўжо адплакалі росы
І на даль наклубілі туману.

Я аддзячу Богу за восень,
За пагосты, за светласць журботы.
Слёзы недзе застылі, як росы,
Не кранувшы сасмяглыя вочы...

* * *

Я адарваны мокры ліст з галіны.
Халодны дождж — мой кат і мой сябрук.
Маё адзенне — туманоў хусціны.
Мой лёс — бязлітасных абцасаў стук.

Мяне таптаць і нішчыць можна смела:
Асфальту вязень — непатрэбны ліст.
Мяне тапаталі, білі — не балела,
І толькі дождж, як быццам кулі свіст.

Калі ж гарачай, напалёнай глыбай
Сусвет расцісне пані Мітусня,
Што ліст?! — садраны ён далоў з галіны —
Такі ж удзельнік смерці і гніцця.

У каляровым хуткаплынным віры
Ці прыйдзе хоць камусь у галаву,
Што топча ён у гэтым шэрым жвіры,
Што мроіцца апаламу лісту?

Мне надакучыла так быць каханкам
Зямных праблем, і страхаў, мітусні,
І толькі ноччу з вечара да ранку
Са мною сон, дзе толькі я і ты.

* * *

Над краем агністых дрэў
Пенных аблокаў блюз,
На жвіры застылы след —
Сэрца цяжэрны груз.

На бруку старых дарог
Лужыны даўніх слёз,
Гукі забытых слоў,
Голле дарожных лоз.

Над кветам густых лугоў
Росным злучэннем траў —
Блакіту самотны звон,
Захаду буйны пажар.

Далёкі-далёкі шлях —
Жвір і цяжэрны груз...
Над краем агністых дрэў
Пенных аблокаў блюз.

* * *

Недзе сёння пакінуў я дзень на шашы,
І апошнія промні празорылі ноч,
Пятакамі паклалі сярэбранасць воч
У агарак маёй апантанай душы.

Дзесьці сёння пакінуў я дзень на шашы —
Пабірацца, хаваючы дробязь у бот,
І, забыўшы пра тое, што недзе ёсць Бог,
Спадзявацца на літасць бяздушных машын.

Дзесьці сёння пакінуў я дзень на шашы —
Срэбралюбствам я грэшны, як многія з вас,
Я ў сярэбраны месячны кінуўся газ
І, упаўшы, крыштальную ношу скрышыў.

Дзесьці сёння пакінуў я дзень на шашы —
Апантаны, разбіты, раструшчаны спрэс,
Дзень, як срэбра, у зрэбную торбу не ўлез,
А пакінуў адбітак крывавы ў душы.

* * *

Нашае неба — вокны,
Вокны у плямах бруду,
Нашае сонца недзе
У глыбокіх аблоках.
Наш агонь не грэе,
Наш агонь ніёнавы,
Нашае святло колеру жоўцi,
Нашае святло — цемра.
Нашае выйсце — дзверы,
Дзверы, замкі ды краты,
Нашыя шляхі — перарэзаны,
Як вены, сцякаюць крывёю.
Нашае неба — вокны,
Дзверы — замкі ды краты.

**Гульні**

I
У зорным небе — цішыня,
А ўся зямля — пагост.
Усім патрэбна тое,
Што нявартa.
А ў зорным небе — цішыня
Для тых, каму нявартае не трэба.

II
Агні, якія не дажываюць
Да раніцы, —
Не ўспамінаюцца днём.
За што такое пакаранне
Тым, хто не хацеў жыць?
За тое, што не хацелі
Свяціць.

III
Хай палаюць
Начным агнём
Мае апантаныя рукі,
Якія не могуць спыніць
Гэты агонь
І выратаваць ноч
Ад смерці
І дзень
Ад ганьбы!

* * *

Бінтамі туману абгорнута рана усходу,
Халодны агонь узнімае самотнае сонца,
Ірвецца ў сусвет да жыцця апантаная вечнасць
І неба вадой залівае блакітна-пунсовай.

Я зранку малітву узношу да Госпада Слова
І вечнасць кранаю рукамі, хоць, можа, не варты.
Халодны агонь узнімае самотнае сонца,
І меч у агні разбурае смяротныя краты.

Бінтамі туману абгорнута рана усходу,
Але не збаюся я ветраў і дзікага свету,
Я знаю — мой Бог узнімае і гэтае сонца
І неба вадой залівае блакітна-пунсовай.

**Радасць перамен**

I
Час рухае стрэлкі,
Мяняюцца месцамі горы,
І спалучэнне хваль на азёрах —
Справа імгнення.
Я іду насустрач новаму агню,
Каб перамагчы атруту,
Што цячэ ў маіх жылах.
Я іду насустрач переменам,
І вецер перапаўняе ветразі.

Можа быць, я згубіў, каб знайсці,
Можа быць,так хацеў Гасподзь,
Можа быць, так было трэба,
Можа быць, так будзе найлепш.

То хай будзе ісціна.

Я не хочу крыві,
Нашто, калі сонца садзіцца ў яе,
Нашто, калі свет перапоўнены смерцю,
У імя чаго,
Калі Божай любові
Хопіць на ўсіх,
І вецер напінае ветразі
Насустрач переменам...

II
Я прагну любові,
А не смерці.
Помста — удзел слабых,
Удар у спіну — здрада.
А я прагну любові,
І вецер перапаўняе ветразі.

Можа быць, новае варта старога,
Можа быць, усё будзе лепш,
Можа быць, гэта узнагарода,
Можа быць, з вяршыні далей відаць.

То хай будзе ісціна.

Агні палыхаюць у нетрах дажджу,
І дрэвы, як мёд,
Салодкімі кроплямі
Фарбуюць зямлю,
Я не ведаю часу,
Але знаю напрамак,
І сонца пад робай аблокаў,
І вецер перапаўняе ветразі
Насустрач пераменам,
Насустрач мёду і дажджу!

Можа быць, усё пераменіцца,
Можа быць, гэта пах свабоды,
Можа быць, гэта пах шчасця,
Можа быць, гэта мая мроя.

То хай будзе ісціна.

* * *

Зрываюцца ягады хатняй рабіны,
Як кроплі крыві на бялюткі паркаль,
І свецяць апошняй лістотай асіны,
І моліцца дуб — адзінокі святар.

Туманныя спевы без слоў і без грання,
Хусцё пахавальнае, сонны сусвет,
Самотныя думкі ды крык развітальны,
Слязою туманны заплаканы след.

Так восень туманам сівее, малюе
Няпэўныя постаці ў белай імгле,
І белай паводкаю далеч рыхтуе
Халоднаму подыху, новай зіме...

* * *

Глыбіню зялёнай пусткі
Вымярае вышыня,
Пад нагамі верас хрусткі
Коўдру шые караням.

Паглядае на прастору
Адзінокая сасна.
Спрэе цямнее неба з гора,
Дождж глынае свет. Зямля —
Што ёй лета альбо восень,
Зелень, чырвань, жаўцізна?
Сушыць лапіны, бы вёслы,
Адзінокая сасна.
Зноў мяняе лес свой колер,
Вецер гоніць хмары зноў,
І хрыпіць на кожным слове
Спеў асенніх халадоў.

А сасна стаіць над даллю.
Не! Яна не зменіць твар,
Бо сталёвых іклаў шалем
Захінаецца ад хмар.

* * *

Рухавыя, як апошнія мухі
восенню,
Белыя, як торф у асушаным
балоце,
Жывыя, як рэшта агню
у вуголлі, —
Мы ідзем наперад крок за крокам,
Каб зноўку быць першымі,
Спаборнічаючы з тымі, хто ўжо
не дойдзе.
І абганяючы загінулых
на шляху,
Але мы дойдзем
першымі
Мы пераможам
у імя перамогі.
Мы — апошнія з тых, хто ішоў, —
дойдзем
Першымі
да канца,
не ўпаўшы
нідзе...

* * *

Я — рэха Слова, крык дрыготкай песні,
Які пакінуў гудкі грот,
І ўдарамі майго жывога сэрца
Злічоны ў часе мой палёт
Па калідоры між зямлёй і небам,
Скрозь вецер і цяпло хацін.
Нядоўгі ён — заблытаўшыся недзе
За крохкі і счарнелы тын.
Скажу: "Збылося!" і "Пара, адлётаў!" —
І змоўкну, і вярнуся ў прах,
І след майго нястрымнага палёту
Размыецца ў густых вятрах.
Але калі замоўкну, быццам рэха,
І вір планет пакіну так,
Святая радасць слёз з гаркотай смеху
Сальюцца
У адзіны знак.
Я часткай подыху жывога Бога,
Які Ен чалавеку ўклаў,
З'яўлюся суд прыняцці ад святога
Па праўдзе ў заканчэнне спраў.
І першае пытанне будзе гэткім
Да ветру з-пад сівых нябёс:
"Каго ж, вятрыску, на шляхах сагрэў ты
І рэха Слова да каго данёс?"

## Змест

* * * Над краем агністых дрэў
* * * Недзе сёння пакінуў я дзень на шашы
* * * Нашае неба — вокны
Гульні
* * * Бінтамі туману абгорнута рана у сходу...
Радасць перамен
* * * Зрываюцца ягады хатняй рабіны
* * * Глыбіню зялёнай пусткі
* * * Рухавыя, як апошнія мухі
* * * Я — рэха Слова, крык дрыготкай песні